Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Востабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11). Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал. на паўг. 1 зал. на 3 м-цы 50 гр.

№ 1 | Вільня, 12 чэрвеня 1936 г. | Год І.

## Ад Рэдакцыі.

Выдаём пакуль што месячны часапіс пад назовам „Беларускі Фронт“, імкнучыся да пераходу на двухтыднёвік, або і тыднёвік.

Розныя прычыны выклікалі з'яўленьне нашага часапісу. У апошніх часах можна заўважыць пасярод беларускага грамадзянства вялікі *зрух*, які прымушае некаторых зрэвідаваць дагэтуляшнія свае пагляды і сваю грамадзка-палітычную ідэолёгію; некаторых—перамяніць кірунак і палітычную арыентацыю, а некаторых — пашукаць іншых дарог дзеля асягненьня сваіх мэтаў. Гэтых апошніх захапіў г. зв. „тактычны зрух“. Зрух гэты набраў асаблівай сілы ў апошнія часы і захапіў нават тыя кірункі беларускай палітычнай думкі, якія, здавалася, ад даўгіх гадоў былі ўжо моцна ўстабілізаваўшыся.

Вось-жа гэтыя „рухі“, гэтыя новыя імкненьні і арыентацыі некаторых беларускіх дзеячоў не маглі прайсьці бяз водгуку ў шырэйшых кругох беларускага грамадзянства—і яны, гэтыя „рухі“, выклікалі з'яўленьне нашага часапісу, каб з аднаго боку проціўдзеяць гэтым „рухам“, як шкодным для беларускага народу, а з другога боку—выробляць у гэтым народзе сваю ўласную беларускую незалежніцкую лінію.

Якія-ж нашы *мэты?* Галоўнай нашай мэтай ёсьць *выробляць і паддзержываць незалежніцкую лінію пасярод беларускага народу і гуртаваць каля сябе тых Беларусаў, якія дзяржацца гэтае лініі, з тым, каб даць адпор ўсякім чужацкім уплывам і арыентацыям.*

Беларускай прэсе і наагул беларускім палітычным кірункам часта закідаецца залежнасьць ад розных чужацкіх уплываў, якія шукаюць пажывы пасярод беларускага народу. І так — закідывалі ўплывы камуністычныя, польскія, літоўскія, нямецкія — паводле гэтых уплываў дзялілі Беларусаў і азначалі ня толькі іх арыентацыю, але грамадзкую ідэолёгію і палітычныя імкненьні. Праўду кажучы, такое азначаньне было часта крыўднае і нязгоднае з праўдай. Крыўднае — бо бадай увесь беларускі рух рабіла залежным ад чужацкіх сілаў, а нязгоднае з праўдай—бо ня ўсе беларускія палітыкі ішлі на ўслугі чужынцаў. Праўда, былі і ёсьць пасярод беларускага народу людзі, якія прадаліся чужацкім сілам, але ёсьць многа і такіх, якія выдзержалі сваю незалежніцкую лінію, адкідаючы ад сябе ўсякія пасулы мамоны і зямных карысьцяў. Дык згуртаваць каля сябе гэтых людзей, разьвіваць і паглыбляць у беларускім народзе незалежніцкую ідеолёгію, выробляць і паддзержываць веру ў свае ўласныя беларускія сілы, старацца здабыць сродкі на незалежніцкую прэсу — гэта будзе *першая нашая мэта.*

*Другая мэта*—барацьба з усякімі чужацкімі ўплывамі пасярод беларускага народу. Цяпер перажываем такія часы, калі чужацкія і варожыя сілы ізноў намагаюцца тварыць у беларускім грамадзянстве розныя „ўплывы“ дзеля праўдзеньня сваіх мэтаў. Праўда, і даўней на нашых землях паўставалі і паміралі розныя „фронты“, і так: былі „фронты“ польскія (вызваленскія, хлопскія, санацыйныя), былі беларуска-камуністычныя (Грамада, Змаганьне), але цяпер паўстае ўжо інтэрнацыянальны „народны фронт“, які мае абняць беларусаў, палякаў, літоўцаў, расейцаў, жыдоў. У гэты нібы „народны“ фронт, які знаходзіцца пад загадамі К. П. З. Б. і Комінтэрну ўцягіваюцца і некаторыя беларускія дзеячы. Вось-жа выказваць шкоднасьць такога адзінага фронту, шкоднасьць асабліва для беларускага народу, які пойдзе ізноў пад каманду чужых павадыроў і як слабейшы, заўсёды будзе выкарыстаны—ёсьць другой нашай мэтай.

*Трэцяй мэтай* будзе аб'ектыўнае і бесстароньняе інфармаваньне беларускага Грамадзянства аб палітычным жыцьці нашага і суседніх народаў. У сучаснай беларускай прэсе, паколькі яна ёсьць залежнай ад іншых уплываў, мы знаходзім староньняе інфармаваньне аб палітычным жыцьці.

І так—у саветафільскай прэсе знаходзім перадусім інфармацыі аб савецкім жыцьці, а калі падаюцца іншыя інфармацыі, то з камуністычнага пункту гледжаньня; полёнафільская прэса падае з польскага пункту гледжаньня і г.д. Мы-ж будзем асьвятляць падзеі з пункту гледжаньня беларускага—і хоць будзем рабіць гэта, пакульшто, даволі рэдка, бо толькі раз на месяц, то ўсёж-такі будзем рабіць гэта памагчымасьці вычэрпываюча і дакладна, паколькі нам пазволяць цэнзурныя і матэрыяльныя варункі. Інфармацыі, або лепш кажучы агляды, будзем падаваць ня толькі беларускага жыцьця, але і міжнароднага.

Гэткія ёсьць нашыя мэты. Ці наш кірунак выльецца з часам у нейкія арганізаваныя формы, пакажа будучыня. Праграмы свaей мы не падаём, бо праграмаў было ўжо і так многа ў беларускім грамадзянстве Тымчасам падаём да публічнага ведама, што кірунак наш ёсьць незалежніцкі, беларуска-народны і грамадзка-радыкальны, далёкі з аднаго боку ад камунізму і яго дыктатуры, а з другога—ад фашызму і ягоных імкненьняў. Мы ўважаем, што фашызм і камунізм, як выплады чужых культур і народаў, для нас чужыя, што беларускі народ павінен вытварыць свае формы жыцьця, датасаваныя да яго натуры, псыхікі і традыцыяў. Галоўная наша *палітычная* мэта: дайсьці да асягненьня ідэалу, абвешчанага актам 25 сакавіка 1918 году, а галоўная *социяльная* мэта: стварыць у Беларусі такі грамадзкі лад, які здаволіў-бы ўсе жыцьцёвыя патрэбы нашага сялянства і работніцтва. Прыгэтым уважаем, што палітычнага і грамадзкага ладу ня маюць права накінуць нам ані фашысты, ані камуністы, а павінен яго стварыць сам Беларускі Народ. Але гэта залежыць ад увядзеньня ў жыцьцё акту 25 сакавіка. Пагляды нашыя будзем выяўляць кожны месяц на старонках „Беларускага Фронту“.

Проціўдзеючы чужацкім фронтам, мы заклікаем усё незалежніцкае беларускае грамадзянства да стварэньня свайго адзінага **беларускага** фронту, вольнага ад уплываў чужых і варожых нам сілаў і іх агентураў.

Прыгэтым заяўляем, што адносіны нашыя да іншых беларускіх груп і кірункаў будуць хоць і крытычныя, але рачовыя і аб'ектыўныя, без напасьцяў і асабістай грызьні. Гэтым аднак мы не адказваемся ад змаганьня з нашымі ідэолёгічнымі праціўнікамі, рознымі чужацкімі „фронтамі“, якія раз'ядалі і далей раз'ядаюць наш народ. Проціў гэтых „фронтаў“ мы будзем тварыць свой *беларускі фронт.* А дзе фронт, там і змаганьне. Але змаганьне мы будзем праводзіць не з асобамі, а з іх ідэямі і з іх мэтамі.

*Нашае змаганьне — гэта будзе змаганьне беларускае ідэі з чужымі ідэямі, незалежнай ідэі з залежнымі ідэямі, беларускага фронту з чужацкімі фронтамі.*

У гэтым змаганьні мы спадзяёмся на падтрыманьне ўсяго незалежнага беларускага Грамадзянства.

## Супроць гэтак званага „народнага“ фронту.

У жніўні прошлага году адбыўся ў Маскве VII-мы сусьветны кангрэс Камінтэрну або, іншымі славамі, камуністычнага інтэрнацыяналу. На гэтым кангрэсе былі вынесены важныя пастановы ў справе камуністычнай тактыкі і адносін да іншых некамуністычных арганізацыяў. Дагэтуль тактыка камуністычнай партыі ішла да таго, каб не супрацоўнічаць з ніякай іншай партыяй, нават сацыялістычнай, але ачарніць і зганьбіць яе ў вачах народных масаў і гэтым зьніштожыць яе. На гэным кангрэсе камуністы зрабілі круты паварот: яны пастанавілі ня толькі пакінуць барацьбу, але нават увайсьці ў зносіны з усімі дэмакратычнымі і нацыянальнымі партыямі і навязаць з імі цеснае супрацоўніцтва. Супрацоўніцтва гэтае мела знасьці для сябе месца ў гэтак зв. „народных фронтах“.

Уваходзячая ў „народны“ фронт партыя не прымушалася адракацца ані ад сваей праграмы, ані ад сваіх мэтаў, яна толькі забавязывалася не нападаць на камуністаў і паддзержываць з імі цесны кантакт. „Пакт узаемнага ненападаньня“ быў першым варункам і этапам супрацоўніцтва ў „народным“ фронце. Пасьля ішлі іншыя формы супрацоўніцтва, як помач пры выбарах, закладаньне і выдаваньне супольных газэт і г. д. Навонкі гаварылася, што „народны“ фронт закладаецца дзеля барацьбы з фашызмам. „Народныя“ фронты ўтварыліся ўжо ў Гішпаніі і Францыі і на выбарах далі вялікія здабыткі камуністам. (У Францыі лік паслоў у парлямант з 10-ці падскочыў адразу да 72-х!) Такія бліскучыя рэзультаты заахвоцілі камуністаў да пашырэньня сваей дзейнасьці на ўсе дзяржавы і народы.

Хваля тварэньня „народных“ фронтаў дакацілася і да нас беларусаў. Пачаліся спробы прамовіць да „тактычнага розуму“ некаторых беларускіх дзеячоў—і, як чуваць, не без рэзультату. Некаторыя беларускія дзеячы ўжо намаўляюць ісьці ў „народны“ фронт, падаючы довады, што час ужо выйсьці з застою, у якім апынуўся беларускі рух, што трэба выбрацца на шырэйшы шлях, што трэба выкарыстаць усе магчымасьці працы для дабра беларускага народу, што саветы ўжо „паправелі“ і адносяцца да кожнага народу справядліва і г. д.

Мы аднак інакш глядзім на гэту справу і пададзём тутака довады, якія прымушаюць нас аднесьціся крытычна да ўсіх камуністычных аргумантаў.

Прадусім ідучы ў „народны“ фронт беларусы губляюць сваю *незалежніцкую лінію.* Камуністы, ведама, не прызнаюць незалежнай і сувэрэннай Беларусі, а толькі як частку савецкага саюзу. Дагэтуль усе чэсныя беларусы стаялі на грунце 25 сакавіка г. зн. на грунце поўнай незалежнасьці Беларусі на яе этнографічных землях. За ідэал незалежнасьці цярпелі і церпяць многія тысячы беларусаў. За гэты ідэал камуністы разагналі ўсебеларускі Кангрэс у 1917 годзе і за гэты ідэал растралялі і саслалі ў Сібір шмат беларускіх дзеячоў. Тымчасам ідучы у „народны“ фронт беларусы выракаюцца гэтай незалежнасьці, а становяцца на грунт савецкаго саюзу, які дае належачым да яго народам толькі вузкую культуральную аўтаномію.

Ідучы на супрацоўніцтва з камуністамі, беларусы *годзяцца з тымі парадкамі, якія цяпер пануюць у Усходняй Беларусі.* Значыць, годзяцца з прымусовай калектывізацыяй беларускага сялянства, годзяцца з высылкай гэтага сялянства ў Расею, Сібір і Туркестан і з насыланьнем у Беларусь чужых элемэнтаў, іншымі славамі, годзяцца з нішчэньнем беларускага народу, як нацыі; годзяцца так-жа з высылкай беларускіх

„Бел. Крыніцы») зьвярнуліся да прэзыдыюму Цэнтральнага камітэту Б. Н. А. з жаданьнем зьмяніць некаторыя пункты праграмы. Карыстаючыся з гэтага звароту, прэзыдыюм пайшло яшчэ далей, бо апрацавала праект цэлага раду зьмен у сваей праграме.

Праект гэты надрукованы ў 25 н-ры „Б. Крыніцы» з дн. 24.V. г.г. На наш пагляд, некаторыя зьмены добрыя, але над некаторымі трэба моцна прызадумацца сябром Рады Б.Н.А., як напр. над пунктам с) у параграфе 1. Старая рэдакцыя выглядае так: „Б. Н. А. процiў усякай дыктатуры, як капіталізму, фашызму, камунізму і інш.“, а новая гавора: „Б. Н. А. процiў усякай дыктатуры, якая з сабой нясе паняволеньне народаў і працуючых масаў“. Розьніца паміж першай рэдакцыяй і другой відавочная. З усяго відаць, што прэзыдыюм Б. Н. А. перажывае нейкі крызыс, шукаючы новых дарог і новай палітычнай арыентацыі.

### Лекцыі ў Б. І. Г. і К.

Дня 24.V г. г. гр. Шкелёнак прачытаў публічную лекцыю аб копных судох на Беларусі, якія трывалі ў нас да канца XVII ст. („копныя“ тое самае што „грамадзкія“, бо праступкі тады судзіліся грамадою, або інакш кажучы „капою“).

У працягу прошлага школьн. году Віль. Аддзел Б. І. Г. і К. наладзіў 15 лекцыяў, найболей на тэмы гістарычныя, з якіх кс. Гадлеўскі прачытаў 10 лекцыяў, др. Малецкі—2, кс. Станкевіч—1, інж. Клімовіч — 1, мэц. Шкелёнак—1. Лекцыі на віленскім грунце выклікалі вялікае ажыўленьне.

### З дзейнасьці Б. Інстытуту Г. і К.

Гурток БІГ і К у Жодзішках зладзіў 10. V. г. г. беларускі спэктакль-вечарыну. Адыгралі камэдыю „Пан Міністар“ Фр. Аляхновіча. Прадстаўленьне адбылося ў валасным будынку гэтак зв. „Палацы“. Людзей было шмат, выключна сялянства. З польскай інтэлігенцыі ня было аніводнага чалавека. Артысты пастараліся свае ролі адыграць добра. Пасьля прадстаўленьня адбыліся танцы, пры каторых моладзь прыемна правяла час. Сабралі 28 зал. 60 гр. Трэба старацца часьцей ладзіць такія імпрэзы.

### Зборкі дзеля чысьціні бел. мовы.

Зборкі гэтыя, наладжаныя паўтара года таму назад, ішлі спачатку даволі добра, але з часам дзеля розных прычын захірэлі. Кіруе імі др. Я. Станкевіч. Цяпер пастаноўлена кожную пятніцу зьбірацца ў Бел.Інстытуце Г. і К. дзеля дыскусіі над чысьцінёй фонэтыкі, морфолёгіі, сынтаксу і слоўніка беларускай мовы. З усяго відаць, што болей інтэнсыўная праца пачнецца па летніх вакацыях.

### Дамагаюцца роднай школы.

„Шлях Моладзі“ у № 4 г. г. падае вестку, што ў вёсцы Запольле, Карэліцкае воласьці, Навагрудзкага пав. сяляне перасталі пасылаць дзяцей у пачаткавую польскую школу і дамагаюцца школы беларускай. Каб сяляне пусьцілі сваіх дзяцей у школу польскую, робяцца розныя „загады“, аднак сяляне ўпорыста стаяць пры сваіх дамаганьнях роднае школы.

У № 25 „Бел. Крыніцы“ знаходзім падобную вестку з в. Літоўцаў, Дзісьненскага пав., дзе сяляне не пасылаюць сваіх дзяцей у польскую школу, дамагаючыся роднае школы. Сяляне пасылалі ўжо спэцыяльную дэлегацыю да школьнага інспэктара з просьбай, каб адчыніў беларускую школу, якая ў вёсцы Літоўцы існавала аж да 1933/34 школьн. году. З гэтай мэтай сяляне складаюць адпаведныя дэклярацыі.

### Пасьвячэньне памятніка Каз. Сваяку.

У суботу 6. VI. г. г. на могілках „Росса“ ў Вільні адбылося пасьвячэньне і адкрыцьцё памятніка ведамаму, прадчасна памёршаму, беларускаму паэту Казімеру Сваяку (кс. Канст. Стэповічу). Смерць забрала яго 10 гадоў таму на 36 годзе жыцьця. Каз. Сваяк ведамы як філёзаф і паэт, які ў сваю творчасьць унёс элемэнт рэлігійны.

На могілках сабралася вялікая грамада народу ня толькі з Вільні, але ў сувязі з маючай адбыцца Кальварыяй, так-жа з Клюшчан, Жодзішак, падвіленскіх ваколіц, а нават з далёкіх Ляхавіч і Мядзьведзіч (за 240 кілёмэтраў ад Вільні). Перад пасьвячэньнем прамовіў кс. А. Станкевіч, які схарактэрызаваў творчыя імкненьні Каз. Сваяка, а пасьля пасьвячэньня — кс. В. Гадлеўскі, які зьвярнуў увагу слухачоў на два мамэнты творчасьці Каз. Сваяка: рэлігійнае і народнае адраджэньне Беларусі. Уканцы кс. Гадлеўскі выразіў пажаданьне, каб дух і ідэі К. Сваяка, якія дагэтуль жывуць у народзе, усьцераглі гэты народ ад блудных дарог.

Пасьля пасьвячэньня, ў залі БІГ і К на Завальнай вул. адбылася жалобная Акадэмія, на якой кс. Станкевіч прачытаў адпаведны рэрэрат аб жыцьці і творчасьці К. Сваяка.

### Беларуская Кальварыя.

У нядзелю 7. VI. сёлета, як і прошлы год, беларусы-каталікі зладзілі працэсію дзеля абыходу дарогі мукаў Хрыстовых на Кальвары каля Вільні. Народу было многа, куды балей, чым прошлы год, лікам каля 500 асоб. Некаторыя прыйшлі вельмі здалёку. Відаць, што беларуская рэлігійная акцыя пасярод беларусаў каталікоў, ня гледзячы на розныя перашкоды, разьвіваецца і абыймае штораз новыя мясцовасьці. Толькі вялікая шкада, што арганізацыя прыняцьця пілігрымаў у Вільні асабліва на Завальнай вуліцы, не стаяла на належнай вышыні. Чутны былі моцныя нараканьні.

## Грамадзяне Беларусы!

Сёлетні 1936 год абвешчаны Беларускім Інстытутам Гасп. і Культуры і Таварыствам Беларускае Школы годам складаньня дэкляраціяў на родную беларускую школу. „Беларускі Фронт“ заклікае беларускае грамадзянства да прыняцьця дружнага ўчасьця ў гэтай акцыі.

Усе на школьны фронт!

Дэкляраціі, інструкцыі, фармуляры заяваў выпісвайце з Школьнага Сэкратарыяту, Вільня, Каралеўская 3—8.

Туды-ж давайце знаць аб усіх надужыцьцях і перашкодах, стаўляных Вам рознымі непаклiканымі адзінкамі.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

Паважаны грам. Рэдактар!

Ветліва прашу надрукаваць у Вашай газэце наступнае:

Дзеля таго што ў шырокіх кругох грамадзянства маё прозьвішча часта лучыцца з арганізацыяй БНА (даўней БХД) а так-жа з некаторымі яе павадырамі, гэтым падаю да публічнага ведама, што ў апошнія часы, пры зьмене палітычнай лініі Б. Н. А, лучнасьць гэтая ня існуе і за цяперашні кірунак БНА я не нясу адказнасьці перад Беларускім народам і гісторыяй.

*Кс. В. Гадлеўскі.*

Вільня, 6. VI. 1936 г.

## Адкрытае пісьмо.

*У прэзыдыюм Рады Беларускага Народнага Аб‘еднаньня.*

Гэтым падаю да ведама прэзыдыюму Рады БНА, што не згаджаюся са зьменай палітыкі, уведзенаю прэзыдыюмам Рады і, на знак пратэсту, выступаю з партыі і Рады БНА.

*Вацлаў Папуцэвіч.*

Вільня, 8. VI. 1936 г.

ца праўдзівым мастаком-пісьменьнікам, тварцом беларускай повесьці.

*Д-р Ст. Грынкевіч* паддае такой-жа грунтоўнай аналізе польскую повесьць „Zwycięstwo Zołądzia“ В. Добачэўскай. У гэтай повесьці аўтарка прадстаўляе змагара за польскую культуру „на крэсах всходніх“, нейкага Жолондзя, які прыбыў сюды з Галіччыны. Чалавек гэты сам ня мае вялікай духовай культуры і затым крытык слушна цьвярдзіць, што сумныя рэфлексіі агортываюць чалавека, глянуўшы на галерыю тыпаў повесьці, якія працуюць пасярод беларускага насельніцтва.

Пераходзім цяпер да разгляду артыкулу, які выклікаў на віленскім беларускім грунце найболей засьцярог, а іменна артыкулу *С. Аленьчука*: „Крытычныя ўвагі да артыкулу „Цені і бляскі“ Ад.Станкевіча ў 4-ай кніжцы „Калосься“ 1935 г.

Артыкул гэты прадстаўляе чыста марксаўскую, камуністычную ідэолёгію і трэба дзівіцца, што быў зьмешчаны рэдакцыйнай калегіяй „Калосься“ бяз большых засьцярог. Рэдакцыя не заявіла, што яна нязгодна з зьместам гэтага артыкулу, а толькі адзначыла, што друкуе гэты артыкул, трымаючыся прынцыпу, каб даць голас і другой старане. Уважаем, што гэтае засьцярогі мала і што само „Калосьсе“ тут выявіла крызыс сваей філёзофічнай ідэолёгіі. Але вернемся да самога артыкулу.

На пачатку свайго артыкулу С. Аленьчук выказвае сутнасьць марксоўскага дыялектычнага матарыялізму, заяўляючы, што гэта няпраўда, быццам матарыялізм апрача матэрыі на сьвеце ня бачыць нічога. Паклікаючыся на Энгельса і Леніна, С. Аленьчук цьвярдзіць, што „у сапраўднасьці дыялектычны матарыялізм, апрача матэрыі бачыць таксама ідэі і пачуцьці, што называюць дух. Монізм гэтай філёзофіі ня ў тым, што яна не прызнае нічога, апрача матэрыі, а ў тым, што прызнае ўсе духовыя зьявішчы, якія вынікаюць з матэрыі, як рэзультат матэрыяльнага існаваньня“.

Тут С. Аленьчук аргумэнтуе як сапраўдны, ня выпрабываны яшчэ, пачынаючы камсамолец, бо з яго слоў выходзіць, што матэрыя—гэта ёсьць матэрыя, а функцыі матэрыі — гэта ўжо будуць не матарыяльныя, але духовыя зьявішчы...

У гэтым цьверджаньні ёсьць відавочная супярэчнасьць, бо ведама, што ўсе зьявішчы або функцыі матэрыі ёсьць матэрыяльнымі, а ня духовымі зьявішчамі. Магчыма, што гэтая супярэчнасьць пайшла з таго, што ў матар‘ялістычнай тэрмінолёгіі дагэтуль яшчэ не знайшлі адпаведнага тэрміну для азначаньня ўсіх зьявішчаў, якія ў ідэалістычнай тэрмінолёгіі завуцца духовымі, але гэта не мяняе факту, што ў высновах С. Аленьчука ёсьць тэрмінолёгічная блытаніна, якая граніčыць з звычайнай софістыкай. Бо яно сапраўды так, што калі стаць на грунт матэрыялізму, то апрача матэрыі не прызнаецца нічога. Адрожніваньне мэханічнай залежнасьці духовых зьявішчаў ад матэрыі ад дыялектычнай залежнасьці гэтых-жа зьявішчаў тут мала памагае і ёсьць простым софістычным зваротам матар‘ялістычных ідэолёгаў, за каторымі ідзе Аленьчук.

Далей С. Аленьчук цьвярдзіць, што тварцы новай культуры (камуністы) процістаўілі стараму сьвету новы сьвет, „у якім няма месца ніякім прывілеям для ўціску чалавека над чалавекам“. Каб гэтыя словы напісаў які расейскі, француcкі або англійскі лібэрал 19 стагодзьдзя, або рамантык, можна было-б паверыць, але калі гэта піша ідэолёг камуністычнай дыктатуры, паверыць трудна. Бо прыглядаючыся да дыктатуры пролетарыяту і наагул да спосабаў удзяржаньня ўлады ў С. С. Р. Р, прыходзім да праканаьня, што сапраўды камуністы ўзялі прывілей на ўсялякі ўціск: грамадзкі, нацыянальны, рэлігійны і асабісты (чалавека над чалавекам). Праўда, гэты прывілей ад камуністаў хочуць адабраць фашысты (за што тыя вельмі гневаюцца), але факт астаецца фактам, што масавы тэрор у 20 стагодзьдзі першыя пачалі тасаваць камуністы.

С. Аленьчук захапляецца творамі Янкі Купалы, каторы пяе аб беларускім лёне, а мы пакажам у нас на Міхася Машару, каторы ня толькі апявае, але і трэпле гэты лён... Для нас творчасьць разумовая, злучаная з творчасьцю фізычнай, вышэй стаіць за творчасьць толькі разумовую. Адна бяда, што М. Машара трэпле лён ня свой, але часта жыдоўскі, як наймiт...

С. Аленьчук наракае на культ чалавека-бэстыі, на культ ненавісьці да іншых народаў, які цяпер праводзіцца у фашызьме (гітлерызьме), а мы спытаем С. Аленьчука, ці матар‘ялістычная ідэолёгія не пашырае гэтага культу? Ці ў Саветах, дзе пануе камуністычная партыя, сапраўды праводзіцца культ любові бліжняга і нацыянальнай справядлівасьці? Прыглядаючыся да жыцьця, бачым, што якраз там, дзе ўведзена або ўводзіцца ў жыцьцё матэрыялістычная ідэолёгія (камунізм — гітлерызм) праводзіцца і культ чалавека-зьвера: homo homini lupus — natio nationi lupus.

Далей С. Аленьчук цьвярдзіць, што ў кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі: працоўных і эксплёататараў. Вось-жа гэты сказ можна датасаваць да многіх нацыяў, а толькі не да беларускай: у беларускім народзе мы бачым прадусім працоўную масу, у нас няма ані абшарнікаў, ані капіталістаў, ані банкіраў, ані рэнт‘ераў, а ёсьць працоўная гушча сялянства і работнікаў, з каторых адны зарабляюць болей, а другія — меней. Але ўсе яны становяць адну працоўную масу. Багатыры да беларускай нацыі не належаць.

Як бачым, усе цьверджаньні Аленьчука ня выдзержываюць крытыкі і затым яшчэ раз дзівіцца трэба, што „Калосьсе“ надрукавала гэты артыкул, нават не засьцерагаючыся, што з ім не згаджаецца. На будучыню трэба такіх памылак высьцерагацца, бо інакш „Калосьсе“ магло-б стацца камуністычнай трыбунай.

Апроч няўдалай спробы з гэтым артыкулам рэшта артыкулаў годна вялікай увагі, як напр. артыкул нашага мастака п. Сергіевіча: „Зацемкі аб мастацтве“; Р. Шырмы „Беларускія валачобныя песьні і іх распаўсюджаньне на гэтым баку савецка—польскай граніцы“; М. Пяцюкевіча „Беларуская мэлёграфія“ (бібліографічны нарыс); у канцы кніжкі пададзена даволі абшырная хроніка. У кніжцы, паміж тэкстам, зьмешчаны: партрэт Фр. Скарыны і бел. валачобная песьня: „Ходзіць пава па вуліцы“. Наагул, кніжка, апроч пералічаных недахопаў, робіць саліднае ўражаньне і зьместам і прыгожасьцю выданьня, так што, калі рэдакцыя не саб‘ецца з дарогі, можна спадзявацца ад „Калосься“ вялікай карысьці для беларускай культуры.

*Кнігафіл.*

# За месяц травень

(*Агляд міжнароднай палітыкі*)*).

**Акрываўленая Абісынія ў ног фашыстаўскай Італіі.**

На пачатку траўня скончылася вайна паміж Абісыніяй і Італіяй перамогай апошняй. Італія пры помачы эўрапэйскай тэхнікі: танкаў, аэраплянаў, газаў, здушыла бадай безбаронную Абісынію і цар яе, нэгус, уцёк з свайго краю спачатку на француcкую тэрыторыю, а потым, сеўшы на ангельскі ваенны карабель у порце Джыбутті, аддаўся пад апеку Англіі. Англія прыняла яго, як магчымы козыр у дыплёматычным змаганьні, якое праводзіцца на міжнародным палітычным рынку.

Якія прычыны выклікалі напад Італіі на Абісынію, мы ведаем: знайсці для насельніцтва цеснай Італіі болей новых прастораў для калёнізацыі. Але ці толькі калёнізацыйныя мэты меў Муссоліні, пачынаючы вайну з Абісыніяй? Не, ня толькі калёнізацыйныя, але яшчэ далейшыя і глыбейшыя. Муссоліні паставіў сабе мэтай *заснаваць вялікую імпэрыю*, якая абыймала-б землі, ляжачыя каля Міжземнага мора і ўзнавіць такім чынам, даўнейшае „Imperium Romanum". Ён ужо пару гадоў таму зьвярнуў быў свае вочы на француcкі Туніс, але тады Францыя пайшла на ўступкі, аддала Італіі трохі пустынная зямлі ў Афрыцы (Лібія), абяцала не перашкаджаць Італіі ў іншых яе захопах і такім парадкам памагла Муссоліняму пашукаць сабе іншых зямель. Муссоліні знайшоў іх у Абісcыніі — і, карыстаючыся з маўклівае згоды Францыі, забраў яе і загадаў аб'явіць свайго караля імпэратарам Абісыніі, а лепш кажучы, першым імпэратарам узноўленай Рымскай імпэрыі. Значыць першы этап да сваіх мэтаў Муссоліняму прайсьці ўдалося—пачатак Рымскай імпэрыі ўжо зроблены.

Што далей? Далейшыя пляны італьянскага дыктатара бліжэй ня ведамы, але з таго што піша эўрапэйская прэса, можна дагадацца, што ён мае на мэце ўмацаваць італьянскае панаваньне ў Абісыніі, аслабіць Англію і выкарыстаць нутраны закалот, які паўстаў у Францыі, а далей час і падзеі пакажуць, што трэба рабіць... Італія цяпер занята „пацыфікацыяй" Абісыніі (усіх злоўленых з аружжам у руках або проста падазроных абісынцаў растрэлваюць цэлымі групамі, бяз ніякага суду), пасьля „пацыфікацыі" і фізычнага вынішчэньня насельніцтва (усё-ж болей будзе месца) пачнецца калёнізацыя, а потым выкарыстаньне прыродных багацьцяў гэтага краю (Абісынія налічвае болей 1.100.000 кв. кілёмэтраў прастору і ёсьць у чатыры разы большая за Італію, прыгэтым Італія мае 42 мільёнаў жыхароў, Абісынія толькі 12 мільёнаў). Прыродныя-ж багацьці Абісыніі так-жа агрмадныя, як і сам край, але яшчэ добра не дасьледжаны і бадай зусім ня выкарыстаны: там ёсьць нафта, жалеза, медзь, золата — словам усё, чаго патрабуе Італія. Разам з калёнізацыяй Італія будзе замацоўваць там сваю дзяржаўнасьць і сваю культуру. Найбольшым ворагам Італіі ў захопніцкіх плянах была Англія, бо праз заняцьце Абісыніі Італія заграэіла Эгіпту, Палестыне і наагул ангельскім дарогам у Індыю і паўднёвую Афрыку. Асабліва ў вялікай небясьпецы апынуўся Суэскі канал, які мае вялізарнае стратэгічнае і гандлёвае значэньне і які знаходзіцца ў руках Англіі. На пачатку італійска-абісынскай вайны (ў прошлым годзе) Англія ўстроіла на Міжземным моры дэмонстрацыю сваіх ваенных караблёў проціў Італіі, але калі ўбачыла, што Муссоліні гэтай дэмонстрацыі не збаяўся і гатоў нават на вайну з Англіяй, Англія ўступіла...

Чаму яна гэтак зрабіла? Справа ў тым, што сілы Англіі parscкіданы па ўсім сьвеце, а Італіі на месцы, апроч таго Англія сама вываяваць ня любіць, а выкарыстоўвае заўсёды чужыя сілы для правядзеньня сваіх плянаў. Дзеля гэтага трэба было ёй пашукаць саюзьнікаў, а саюзьнікаў якраз ня было. Францыя, як ужо ведаем, была на старане Італіі і іх вяжа паміж сабою нейкі дагавор; Нямеччына магчыма і пайшла-б у саюзьнікі Англіі, але вымагала-б ад яе апошняй вялікай заплаты ў Эўропе і калёніях, так-што гэты саюзьнік быў надта дарагі — і стары брытыйскі леў, асклаўшыся раз і другі на Італію, прылёг цяпер, чакаючы, што з гэтага ўсяго выйдзе. Прыгэтым знаўцы ваенных спраў казалі, што вайна паміж Англіяй і Італіяй не канешне мела-б азначаць перамогу першай, бо Італія ў апошнія часы разбудавала сваю флёту, марскую і паветраную, была прыгатаваўшыся да вайны і на ўсе магчымасьці, зьвязаныя з ею, так што Англіі нічога іншага не асталося, як застасаваць проціў Італіі эканамічныя санкцыі, або за барану ўвозу ў Італію прадметаў служачых для вайны. Тут Англіі пашэнціла, але толькі часткова: ўвозу ў Італію нафты Англіі спыніць не ўдалося, а нафты якраз найболей патрабавала Італія і пры помачы нафты (бэнзыны) Італія магла пусьціць у рух свае танкі і аэрапляны, якія даканалі Абісынію..

**Ліга Народаў і Абісынія.**

Ліга народаў знаходзіцца бадай цалком у руках Англіі і дзеля гэтага Ліга ад самага пачатку пратэставала проціў нападу Італіі на Абісынію. Але як Ліга ня мае ў сваім беспасрэдным распараджэньні вайсковай сілы, а сама Англія, як мы ўжо бачылі, не рашылася на вайну, то Лізе асталося толькі пратэставаць проціў італьянскага ката, які еў абісынскае мяса... І Ліга пратэставала — і трэба сказаць праўду, пратэставала на славах зусім добра: аб'явіла Італію нападнікам, устанавіла проціў Італіі санкцыі і часткова іх увяла ў жыцьцё, але ўсё гэта было толькі словам, крыкам, а ня дзеяньнем. Урэшце Ліга, як мы ўжо казалі, рашуча дзеяць ня можа, бо ня мае фізычнай сілы. Ліга цяпер вельмі слабая, бо ў яе склад ня ўваходзяць такія паважныя сілы, як злуч. Штаты Паўноч. Амэрыкі, а такжа Японія і Нямеччына—усё гэта аслабляе прэстіж Лігі навонкі. Ліга — гэта больш міжнародная трыбуна, нейкі „дыскусыйны клюб", чым сапраўды саюз дзяржаў, затым, калі справа Абісыніі ў траўні месяцы (ужо пасьля завяваньня яе Італіяй) была пастаўлена на парадку дня Рады Лігі Народаў і на паседжаньні Рады зьявіўся прадстаўнік Абісыніі, дык прадстаўнік Італіі пакінуў паседжаньне і выехаў з Жэнэвы...

Муссоліні заявіў, што Італія ня выйшла з Лігі Народаў, а толькі ня будзе прымаць удзелу ў паседжаньнях, пакуль будзе ў Лізе Абісынія. Апроч гэтага, як варунак згоды на паварот у Жэнэву, Муссоліні паставіў скасаваньне санкцыяў і гэтым самым прызнаньне перамогі Італіі над Абісыніяй. У палавіне чэрвеня мае сабрацца Рада Лігі, а тымчасам падзеі разьвіваюцца незалежна ад Лігі Народаў: Італія стараецца загладзіць Англію, абяцаючы, што правы Англіі будуць у Абісыніі ўшанаваны. І як чуваць, Англія на гэтыя абяцаньні ідзе і пачне беспасрэдныя перагаворы з Італіяй у справе падзелу ўплываў у Абісыніі...

(Працяг будзе).

*) Агляды міжнароднай палітыкі будзем зьмяшчаць кожны месяц у сынтэтычным нарысе. Дзеля таго, што існуючая беларуская прэса такіх аглядаў не падавала, чытачы самі прымушаны былі рабіць свае вывады і здогады, што да чаго адносіцца. Мы будзем дасьледжваць падзеі ў іх прычыновай сувязі і выкрываць галоўныя мотары палітыкі.

# З Польшчы.

**Перамена ўраду.**

Зараз пасьля пахаваньня сэрца марш. Пілсудскага ў Вільні наступіла зьмена ўраду ў Польшчы. На месца прэм'ера Касьцялкоўскага прыйшоў ген. Славой-Складкоўскі. Інтэрасуюць нас прычыны, якія маглі выклікаць гэтую зьмену, а так-жа, ці зьмена гэта нясе перамену палітычнага курсу.

Што датыча прычын, то газэты пішуць, што папярэдні ўрад ня змог выканаць усіх сваіх пляноў і развязаць труднасьцяў, якія перад ім сталі, асабліва ў нутраной палітыцы. Кажуць што ўрад мін. Касьцялкоўскага шукаў апірышча ў тых левых груп польскага грамадзянства, у якіх ня шукаў марш. Пілсудскі, хоць урад афіцыяльна да ніводнай у гэтых груп не зварочваўся; апроч гэтага была спроба ўцягнуць у палітычную работу фэдэрацыю „Obrońców Ojczyzny", як аб гэтым пісала віленскае „Słowo", аднак усе гэтыя спробы не давалі да пажаданага рэзультату. Палажэньне стварылася няяснае. У гэтай няяснасьці дэцыдуючую ролю адыграў Генэральны Інспэктар Арміі Рыдз-Сьміглы - і на прэм'ера быў назначаны віцэ-міністар Спраў Вайсковых ген. Славой-Складкоўскі, ведамы з акуратных спаўненьняў загадаў марш. Пілсудскага. Сам ген. Славой-Складкоўскі заявіў, што ён „па загаду Сьміглага ідзе „na patrol". А калі на патроль, то слушна „Warsz. Dz. Narod." адзначае, што „новы прэм'ер ня будзе ані тварцом стратэгічнага і тактычнага пляну, ані за яго адказным". Вялікую ўвагу палітычных кругоў зьвярнуў факт, што на першым паседжаньні новага ўраду быў прысутны ген. Рыдз-Сьміглы.

Варшаўскі „Czas" піша, што „зьмена ўраду была зроблена галоўным чынам, каб памагчы развязаць нутраныя труднасьці, а прадусім давясьці да ўспакаеньня краю і недапушчэньня да далейшых закалотаў".

**Новая дэвізавая палітыка.**

Гаспадарчыя труднасьці, якія прыціснулі вялікім цяжарам увесь сьвет, не абмінулі і Польшчы. Доўгатрывалы дэфіцыт у дзяржаўным бюджэце, безработица і інш. труднасьці выклікалі чуткі аб дэвалюацыі (абніжэньні вартасьці) злотага, як гэта было ў некатарых дзяржавах. Аднак усім гэтым чуткам вельмі рашуча запярэчыў польскі ўрад, выдаючы афіцыяльны камунікат такога зьместу: „У сувязі з пашыранымі апошнім часам чуткамі аб маючай наступіць зьмене валютнай палітыкі праз абніжэньне вартасьці злотага, урад заяўляе з цэлым націскам, што чуткі гэтыя ёсьць наскрозь беспадстаўныя і шкодныя для дзяржавы".

Пасьля крывавых львоўскіх падзеяў (больш 10 забітых і яшчэ болей раненых) некаторыя пачалі збываць злотыя, а купляць золата і загранічную валюту, так што запасы золата і валюты ў Польскім Банку моцна скорчыліся. Хочучы спыніць нездаровую спэкуляцыю валютамі ўрад выдаў распараджэньне аб дэвізах і валютах (дэвіза—гэта вэксаль, выданы на заграніцу і платны ў чужой валюце). Паводле ўрадавага распараджэньня купля і прадажа золата а так-жа загранічнай валютаў забараняецца, (гандаль серабром дазволены), купляць і прадаваць золата маюць права толькі нямногія банкі, забараняецца вываз з Польшчы так-жа польскай валюты, акрамя агранічанай, патрэбнай колькасьці (500 зл., а ў Гданск 100 зл.). Усе, хто хоча здабыць золата на тэхнічныя патрэбы (дэнтысты), мусяць браць спэцыяльны дазвол.

Гэтае распараджэньне мае прыпыніць валютную спэкуляцыю і ажывіць эканамічнае жыцьцё краю. Аднак знаходзяцца і такія эканамісты, якія вельмі крытычна глядзяць на гэтае распараджэньне ўраду, цьвердзячы, што свабадны гандаль валютамі кантралюе мэтнасьць нутраной дзяржаўнай гаспадаркі. Гэтак у „Gaz. Polskiej" даказвае ведамы польскі эканаміст І. Матушэўскі. Ён кажа, што новая дэвізавая палітыка, агранічваючая свабоду гандлю валютамі, не прынясе папраўы гаспадарчага жыцьця Польшчы. Матушэўскі, па грунтоўным аналізе існуючых гаспадарчых варункаў, заяўляе, што гаспадарчая папраўа можа наступіць толькі тады, калі:

1) Ровень цэн у Польшчы зраўняецца з роўнем цэн сусьветных і калі,

2) унутры краю зраўняецца ровень цэн земляробскіх з фабрычнымі, а так-жа ровень публічных цяжараў (падаткаў) з роўнем народнага даходу.

Ул. Студніцкі ў „Słowie" цьвярдзіць, што спыненьне свабоды абаротамі валют ня толькі не ажывіць гаспадарчага жыцьця, але яго спыніць. Урад аднак стаіць на іншым становішчы і праводзіць з усей рашучасьцю новую дэвізавую палітыку. На чыёй старане праўда—пакажа будучыня.

**„Front ludowy".**

Пасярод польскіх палітычных партыяў камуністы стараюцца такжа наладзіць гэтак звааы „Front ludowy". Аднак усе польскія партыі адняісьліся да гэтай новай камуністычнай імпрэзы крытычна. Орган ППС „Robotnik" паведамляе, што „пазытыўнае супрацоўніцтва з камуністамі ёсьць з пункту гледжаньня ідэйнага і практычнага немагчымым". Паміж ППС і камуністамі заключаны толькі „пакт ненападаньня". Польскія людоўцы (Вызваленьне і Стронніцтво Хлопское) дагэтуль нічога не заявілі ані аб уваходзе ў „Front ludowy" ані аб заключэньні з камуністамі „пакту ненападаньня".

**Эндэцкае шлюбаваньне.**

Эндэцыя, як ведама, выкарыстоўвае рэлігію дзеля сваіх палітычных мэтаў, так як і жыдоўскую справу. Дня 24. V. г. г. пад павадырствам эндэцыі быў наладжаны вялізарны зьезд польскага студэнцтва ў Чэнстахове, на які з'ехалася каля 17 тысяч студэнтаў. Студэнты пакляліся тамака дзяржацца і праводзіць у жыцьцё народныя і рэлігійныя ідэалы. Кідалася ў вачы тое, што студэнты пры вітаньні і разьвітаньні падымалі руку ўгару (пафашыстаўску), казалі „чолэм", а некаторыя насілі знак „з мечыкамі", які носяць скрайнія эндэкі. У санацыйных польскіх кругох такое шлюбаваньне выклікала вялікія засьцярогі. Толькі п. Харкевіч у „Słowie" дн. 24. V. г. г. адзначае, што гэтае шлюбаваньне мае аграмаднае значэньне ня толькі для сучаснасьці, але і для будучыні Польшчы, бо Польшч паклікана, каб адыграць вялікую гістарычную ролю ўжо магчыма ў недалёкай будучыне... Якая гэта мае быць роля, п. Харкевіч не падае.

**3.300 цыркуляраў.**

У адным толькі міністэрстве Скарбу, пры пераглядзе выкрылі аж 3.300 цыркуляраў! З іх 3.030 скасавалі, дык асталося яшчэ 270! На наш пагляд, хваціць і гэтага. Сапраўды, польская біюракрацыя найболей плодная з усіх яе загранічных сяцьцёр.

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га ліпня.*

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*

*мгр. В. Гадлеўскі,*

*мгр. М. Шкелёнак,*

*студ. В. Папуцэвіч.*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14